# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### БАЗЫ

Прадстаўнік амерыканскага ваеннага камандвання на Акінаве, паведамляе газета «Майніці», паведаміў уплывовым японскім колам аб планах ЗША значна павялічыць колькасць сваіх ваенных збудаванняў на востраве.

Цяпер на Акінаве налічваецца 65 баз сухапутнай арміі ЗША. 13 ваенна-марскіх баз, 15 баз марской пяхоты, 24 ваенна-паветраныя базы — усяго 117 ваенных баз ЗША.

Мяркуецца стварыць яшчэ каля 120 ваенных аб'ектаў.

### УДАРЫ ПАТРЫЁТАЎ

Часці Народных узброеных сіл вызвалення Паўднёвага В'етнама наносяць новыя ўдары па амерыканскіх інтэрвентах і войсках сайгонскіх марыянетак. Як паведамляе агенцтва ВІА, спасылаючыся на агенцтва Вызваленне, у ходзе наступальных баёў з 14 па 16 жніўня (ў раёне ракі Зіёнгтром (правінцыя Бенчэ) байцы НУСВ Паўднёвага В'етнама вывелі са строю каля 600 варожых салдат і афіцэраў, у тым ліку 450 амерыканскіх. Баі ідуць у вялізным раёне гэтай правінцыі.

### БУДАЎНІЦТВА ТРАНСІРАНСКАГА ГАЗАПРАВОДА

Пачалося будаўніцтва трансіранскага (ўчастка Трансіранскага газаправода, па якому іранскі газ пойдзе ў Савецкі Саюз. Гэты (ўчастак ад горада Саве да Астары даўжынёй 495 кіламетраў будуецца з дапамогай савецкіх спецыялістаў. Будзе пракладзена таксама ветка на Тэгеран даўжынёй 112 кіламетраў.

### ТЭАДАРАКІС

Грэчаскі кампазітар Мікіс Тэадаракіс пасля вызвалення з турмы быў высланы (ў невялікую горную вёску ў цэнтральнай частцы Пелапанеса, таму што ён, на думку (ўлад, з'яўляецца пагрозай для грамадскай бяспекі, паведамляе карэспандэнт Рэйтэр з Афін.

### НАСЕЛЬНІЦТВА КАНАДЫ

Насельніцтва Канады на 1 чэрвеня гэтага года склала 20.744 тысячы чалавек. За дванаццаць месяцаў — з 1 чэрвеня мінулага года, — паводле даных канадскага статыстычнага бюро, насельніцтва краіны павялічылася на 1,7 працэнта.

### ПЕРСІКІ НА АСФАЛЬЦЕ

Незвычайныя малюнкі можна ўбачыць у гэтыя дні на шасэйных дарогах Францыі — аўтамашыны, слізгаючы, з цяжкасцю рухаюцца па асфальце, засыпанаму спелымі персікамі... Гэта сяляне, пратэстуючы супраць занадта нізкіх закупачных цэн на фрукты, публічна знішчаюць плён сваёй працы. Газеты паведамляюць, што толькі гэтым летам такім чынам знішчана каля 50 тон персікаў, 12 тысяч тон груш. У мінулым годзе да спажыўца не дайшлі 110 тысяч тон бульбы.

Між тым, цэны на прадукты харчавання і фрукты ў Францыі высокія.

(вл)

## БССР

### У БЮРО ЦК КПБ

Бюро ЦК Камуністычнай партыі Беларусі разгледзела пытанне аб мерах паляпшэння палітычнай вучобы камсамольцаў і моладзі рэспублікі.

У 1967 — 1968 навучальным годзе ў палітычных гуртках, школах і семінарах вучылася каля 250 тысяч камсамольцаў і несарганізаванай моладзі. Бюро ЦК лічыць, што ў арганізацыйных адносінах і асабліва па зместу існуючая ў рэспубліцы сістэма камсамольскай палітычнай адукацыі не ў поўнай меры адпавядае задачам фармавання ў юнакоў і дзяўчат навуковага светапогляду. Многія камітэты камсамола і пярвічныя камсамольскія арганізацыі яшчэ не сталіся сапраўднымі палітычнымі арганізацыямі моладзі.

Бюро ЦК КП Беларусі абавязала партыйныя і камсамольскія камітэты палепшыць выхаваўчую работу. Звернута ўвагу на своечасовую інфармацыю, аператыўную і больш шырокую.

### СПАБОРНІЦТВА

ЦК КП Беларусі і Савет Міністраў БССР разгледзелі вынікі сацыялістычнага спаборніцтва за павелічэнне вытворчасці і нарыхтовак прадуктаў жывёлагадоўлі за першае паўгоддзе 1968 года.

Найлепшымі аказаліся: **Гродзенская** вобласць (сакратар абкома КПБ т. Мікуловіч, старшыня аблвыканкома т. Малочка, начальнік абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі т. Грынашкевіч), і **Мінская** вобласць, дзе першым сакратаром з'яўляецца т. Палякоў, старшынёй аблвыканкома т. Цябут.

### ФЛОТУ

У сувязі з Днём Паветранага Флоту СССР адбыўся ў Мінску ўрачысты сход, у якім ўдзельнічалі, м. ін., сакратар ЦК КП Беларусі У. Міцкевіч, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Клімаў, камандуючы войскамі Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік І. Трацяк.

### САВЕЦКАЙ

У сувязі з 50-годдзем Савецкай Беларусі вучоныя рыхтуюць шмат навуковых прац. Завершана калектыўная праца над нарысамі гісторыі марксісцка - ленінскай філасофіі ў Беларусі, вядзецца работа над двухтомнікам **«Гісторыя дзяржавы і права БССР»**, выдадзена зборнік **«Садружнасць літаратур»**, рыхтуюцца працы, якія адлюстроўваюць развіццё беларускай навукі і гісторыю Акадэміі навук Беларускай ССР.

### ЕЛЬЯШЭВІЧА

Апублікавана ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Саюза ССР аб узнагароджанні акадэміка Акадэміі навук Беларускай ССР М. Ельяшэвіча ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

### ГОСЦІ

Беларусь наведалі галоўны рэдактар часопіса ЦК мангольскай партыі **«Намын амьдрал»** (Партыйнае жыццё) Ц. Намсарай і намеснік галоўнага рэдактара — Л. І. Чынхарло.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### У ІМЯ САЦЫЯЛІЗМА

Ва ўсёй краіне ў прадпрыемствах і ўстановах адбыліся партыйныя сходы, прысвечаныя сітуацыі ў Чэхаславакіі. У сходах шматлікі ўдзел прымалі беспартыйныя. Паўсюдна выяўлялася падтрымку для заявы польскага ўрада і рашэння аб дапамозе пяцію сацыялістычнымі краінамі брацкім народам Чэхаславакіі. Найлепшай падтрымкай нашага ўрада — сцвярджалася падчас сходаў — будзе натужлівая праца над поўнай рэалізацыяй абавязацельстваў прынятых у гонар V з'езда партыі. Нашым адказам сілам міжнароднай рэакцыі рыхтуючым змову супраць сацыялістычных краін будзе далейшае наматанне над пабольшаннем сілы народнай айчыны.

### У ДВА РАЗЫ

З кожным днём ва ўсёй краіне развіваецца перадз'ездаўская кампанія. Ахоплівае яна ўсе слаі насельніцтва горада і вёскі. Сяляне Познаньскага ваяводства ў рамках перадз'ездаўскай кампаніі здалі дзяржаве ў два разы больш збожжа, чымсьці ў аналагічным перыядзе мінулага года.

### СТРОННІЦТВА ДЭМАКРАТЫЧНАЕ

Прэзідыум Цэнтральнага Камітэта Строннíцтва дэмакратычнага паклікаў пяціасабовую камісію для пераанналізавання тэзісаў на V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. У паасобных установах Стронніцтва дэмакратычнага праводзіцца дыскусію над тэзісамі на V з'езд партыі і матэрыяламі да дыскусіі перад IX кангрэсам Стронніцтва дэмакратычнага, які адбудзецца ў першай чвэрці наступнага года.

### МІЛЬЁН

Быдгаскае радыёпрадпрыемства «Эльтра» выпрадукавала ўжо мільённы транзістарны радыёпрыёмнік. Дасягненне тэтае прыспешылі перадз'ездаўскія абавязацельствы рабочага калектыву прадпрыемства.

### 3 МІЛЬЁНЫ

У Фабрыцы электрычных матораў у Бжэгу выпрадукавана 3-мільённы матор. Першы мільён матораў фабрыка выпрадукавала на працягу 11 гадоў, другі на працягу 4 гадоў і 3 месяцаў, трэці мільён прадукавана няцэлых 3 і паўгода.

### НАЙЛЕПШЫ КАЛЕГА

Праўленне Прафсаюза хімікатаў у Познані аб'явіла спаборніцтвы на званне «найлепшага калегі ў прадпрыемстве». Заданнем спаборніцтва — стваранне лепшых міжлюдскіх суадносін у фабрыцы.

### ПАЧАТАК НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

2 верасня ў школах усёй краіны пачынаецца новы навучальны год. Да вучобы прыступіць каля 87 мільёнаў дзяцей, моладзі і дарослых слухачоў, гэта значыць на 150 тысяч больш, чымсьці ў мінулым годзе. У пачатковых школах будзе вучыцца звыш 5,6 мільёна дзяцей. Лік гэты меншы ад мінулагодняга на 90 тысяч.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ДАЗ'ЕЗДАЎСКІ ЧЫН

Рабочыя Чыгуначнага прадпрыемства стальных канструкцый у Старасельцах пад Беластокам рашылі ў гонар V з'езда партыі прыняць дадатковыя абавязацельствы. Па заказу металаапрацоўчай фабрыкі ў Чорнай Беластоцкай за вельмі кароткі час апрацавалі яны і выканалі 40 тон стальных канструкцый, якія першапачаткова не былі прадбачаны прадукцыйным планам прадпрыемства. Гэтыя канструкцыі былі неабходныя для Чорнабеластоцкай фабрыкі дзеля тэрміновага выканання сваіх прадукцыйных абавязацельстваў у чэхаславацка-польскім супрацоўніцтве пры выпуску новага трактара.

### СЫПЛЕЦЦА ЗБОЖЖА

Да 20 жніўня г.г. гаспадары Беластоцкага ваяводства прадалі дзяржаве 23 тысячы тон збожжа. Многа сялян ужо поўнасцю разлічылася са сваіх абавязкавых і кантрактацыйных паставак.

### ПРАМЫСЛОВАСЦЬ ГАЙНАЎКІ

Экзекутыва гарадскога камітэта ПАРП у Гайнаўцы нядаўна абмеркавала вынікі працы прадпрыемстваў горада за першае паўгоддзе гэтага года. Аказваецца, што прамысловыя прадпрыемствы Гайнаўкі перавыканалі свае планавыя заданні. Вартасць выпушчаных імі тавараў значна перавышае 200 мільёнаў злотых. Зараз у прамысловых прадпрыемствах Гайнаўкі працуе звыш 2700 рабочых, а сярэдняя месячная зарплата аднаго рабочага складае суму амаль у 2 тысячы злотых.

### ВОДАПРАВОД

На разбудову водаправоднай сеткі ў Беластоку прызначана ў гэтым годзе 14 мільёнаў злотых. Праца канцэнтруецца пры давядзенні вады для горада з новай крыніцы.

### У АРГАНІЗАЦЫІ ЗСЛь

У Беластоцкім ваяводстве арганізацыя Аб'яднанага стронніцтва людовага налічвае звыш 14 500 членаў. Зараз гурткі ЗСЛь у сувязі з абменам партыйных білетаў праводзяць абмяркоўку сваіх арганізацыйных спраў і праблем развіцця сельскай гаспадаркі ў ваяводстве. Яны актыўна ўключыліся ў даз'ездаўскую дыскусію.

### ФАБРЫКА ФАНЕРЫ

Беластоцкая фабрыка фанеры ў Дайлідах — адна са старэйшых фабрык у Беластоцкім ваяводстве. За год будзе яна адзначаць юбілей 50-годдзя. Пасля вайны фабрыка працуе ўжо 20 год. Фанера дайлідскай фабрыкі карыстаецца вялікім поспехам на замежных рынках. Выконваючы даз'ездаўскія абавязацельствы калектыў фабрыкі перавыканаў план за сем месяцаў гэтага года. Дадатковая прадукцыя ацэньваецца на звыш паўмільёна

### ДАЖЫНКІ

У апошнюю нядзелю ў 9-ці паветах Беластоцкага ваяводства адбыліся дажынкавыя ўрачыстасці. Між іншым сяляне падводзілі вынікі сваёй працы ў Новым Беразове на Гайнаўшчыне, у Рыбаках у Беластоцкім павеце і ў Чорнай Царкоўнай Сямяціцкага павета.

(вр)




**Niedziela, 1.IX.**

10.20 ,,Przypominamy, radzimy''. 10.30 PKF. 10.40 ,,Spotkania z przyrodą''. 11.10 Teatr Młodego Widza. J. Domagalik — ,,Banda Rudego''. — ,,Taki sobie Pająk''. cz. I. 11.45 Wiadomości dziennika. 14.10 Koncert muzyki polskiej 14.50 ,,Westerplatte'' — film. 15.10 ,,Przemiany''. 15.40 Reportaż z II Ogólnopolskich Zawodów Ratowników Wodnych. 16.30 ,,Ludzie i zdarzenia''. 16.55 Losowanie Totolotka. 17.00 Sprawozdanie sportowe. 17.55 Estrada Literacka: S. Grochowiak — ,,Polnische Wirtschaft'. 18.25 ,,Wszystko o Warszawie'' — teleturniej. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 ,,Orzeł'' — film fab. pol. 21.50 ,,Divertimento op. 7'' — program pt. ,,Wizyta''. 22.20 ,,Niedziela Sportowa''.

**Poniedziałek, 2.IX.**

16.50 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: ,,Nasza szkoła'' — rep. filmowy. 17.25 ,,Spacerkiem po kinach''. 17.55 — film. 18.10 ,,Etap prawdy'' — ,,Medale i detale''. 18.30 ,,Wietnamu dzień powszedni'' — film dok. pol. 18.45 ,,Eureka'' — magazyn pop.-naukowy. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 V Festiwal Teatrów Dramatycznych. 21.35 ,,Drzymała'' — program publ. (Katowice). 22.05 ,,Kino Krótkich Filmów''. 22.35 Dziennik TV.

**Wtorek, 3.IX.**

8.30 ,,Codzienne zajęcie'' — film dok. TV NRD (,,Piloci w piżamach'') cz. III. 9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: Z. Skowroński — ,,Dekret''. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski: ,,Pierwsze słowo'' (,,O miejsce wśród ludzi''). 11.25 Przerwa. 12.30 i 16.15 Przysposobienie Rolnicze: ,,Żyto ozime jako poplon'' (Łódź). 16.50 Wiadomości dziennika. 17.00 — Film dla dzieci. 17.15 TV Kurier Warszawski. 17.30 ,,Dojrzalsi niż wczoraj'' (,,7 milionów młodych''). 17.45 ,,Kronika 50-lecia Kraju Rad'' rok 1922 (Katowice). 18.10 ,,Sylwetki X Muzy'' — Tadeusz Łomnicki. 18.45 ,,Są takie piosenki'' — program rozrywkowy. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 ,,Pierwszy pawilon'' — film pol. (,,Nowela fantastyczna''). 20.30 ,,Awans'' — program Red. Młodzieżowej. 21.00 ,,Codzienne zajęcie'' — film dok. TV NRD (,,Piloci w piżamach'') cz. III. 22.25 Dziennik TV.

**Środa, 4.IX.**

10.00 Film fabularny. 13.25 ,,Matematyka w szkole'' — ,,Zadania nauczyciela matematyki wobec reformy programu''. 16.50 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci. ,,Pośród trzech stawów'' (,,Gawędy o zwierzętach''). 17.30 ,,Nie tylko dla pań''. 17.50 Wszechnica TV: ,,W pracowniach polskich uczonych'' — ,,średnica warszawska''. 18.20 PKF. 18.30 ,,Dwa końce smyczy'' — film dok. węg. 18.50 ,,Bryza'' — magazyn morski. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 ,,Muzyka salonów''. 20.35 ,,Azymut'' — młodzieżowy magazyn wojskowy. 21.05 ,,Alfred Hitchcock przedstawia'' — film. 21.55 ,,Światowid'' — magazyn spraw międzynarodowych. 22.25 Dziennik TV.

**Czwartek, 5.IX.**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: ,,Poezja średniowiecza''. 10.25 ,,Ten, który wrócił'' — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. VII—VIII) Język polski: ,,Prasa''. 16.50 Wiadomości dziennika. 17.00 ,,Teleferie'': 1) ,,Niewidzialna Ręka'', 2) ,,Związek Zielonego Zeszytu'', 3) ,,Piątkowe Towarzystwo Nieprzemakalnych'', 4) ,,Znak Zorro'' — film (odcinek ostatni). 18.05 ,,Z notatnika indyjskiego'' — rep. film. (,,Z kamerą po świecie'') — film Tele-Aru. 18.20 ,,Potrzeby i możliwości'' — program ekonomiczny. 18.45 ,,Samotność'' A. Blocha — program muzyczny. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 ,,Trybuna TV''. 20.40 Teatr Sensacji: A. Minkowski — ,,Przyznaję się do winy'' cz. II. 21.45 Magazyn Medyczny. 22.15 Dziennik TV.

**Piątek, 6.IX.**

10.00 ,,Panieńskie lata'' — film fab. radz. 16.50 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Telekram''. 17.25 TV Kurier Mazowiecki. 17.40 ,,Wieś, kobieta i sport'' (,,Na zdrowie''). 18.00 ,,Gdzie jesteś Luizo'' — film pol. (,,Nowela fantastyczna''). 18.30 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 19.00 ,,Śpiewa Andrzej Szajewski''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Wszechnica TV: ,,Dwie pasje życia'' (,,Wielcy, znani i nieznani''). 20.35 V TV Festiwal Teatrów Dramatycznych. W. Szekspir: ,,Ryszard III''. Po teatrze, ok. 22.15 ,,10 minut recenzji''. 22.25 Dziennik TV.

**Sobota, 7.IX.**

10.00 ,,Ostatni cowboy'' — film fab. USA. 17.00 Wiadomości dziennika. 17.10 Dla młodych widzów: ,,Gwiazdy w morzu'' — film radz. 18.50 ,,Rytmy na plaży'' — film rozr. angl. 19.00 ,,Wieczorne rozmowy'' 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Historia frywolności'' — film hiszp. 21.00 ,,Spadające gwiazdy'' — program rozrywkowy (Helsinki). 22.00 Dziennik TV. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 ,,Ostatni cowboy'' — film fab. USA.




**30 sierpnia, piątek**

15.00 Nowości. 15.10 Program dnia. 15.15 Stowarzyszenie Twórcze Przygód i Fantastyki. 16.00 Technika drugiego półwiecza. 16.30 ,,Knot''. 16.40 ,,5+2''. 17.10 Film animowany dla dzieci. 17.20 Przegląd TV. 18.05 ,,Drzwi''. Film krótkometrażowy. 18.15 Sztafeta nowości. 19.15 ,,Płomyk''. 20.30 TV barwna. 21.30 ,,Tylko fakty''.

**31 sierpnia, sobota**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 ,,W dniu imienin''. 8.30 Reportaż sobotni. 9.00 ,,Wiedza''. 10.15 ,,Zdrowie''. 10.45 ,,Szkatułka muzyczna''. 11.05 ,,Nowy rok szkolny''. 11.20 Dla dzieci. 11.40 ,,Trzeci semestr''. 12.00 Dla młodzieży. 12.40 Film TV dla dzieci. 14.00 ,,Świat socjalizmu''. 14.30 TV barwna. 17.00 ,,Cygan''. Film fabularny. 18.30 ,,Czas''. 19.00 ,,Piloci w piżamach''. Premiera dokumentalnego filmu TV NRD. 20.10 Klub miłośników piosenki. 21.00 Artysta Ludowy ZSRR N. Simonow. 22.00 Dziennik.

**1 września, niedziela**

7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 ,,Budzik''. 8.00 ,,Dla was, kobiety''. 8.30 ,,Album przyrody''. 9.00 Dla dzieci. 9.40 Film TV dla dzieci. 10.20 Literatura białoruska w filmie. 11.40 Encyklopedia TV. 12.00 Kalendarz TV. 12.30 Koncert życzeń. 13.00 ,,Kiosk muzyczny''. 13.30 W eterze ,,Młodość''. 14.30 TV barwna. 16.00 Nowości. 16.15 ,,Siedem dni''. 17.00 Piłka nożna. ,,Dynamo'' (Kijów) — ,,Nieftczy'' (Baku). 18.45 Koncert galowy uczestników Wszechzwiązkowego festiwalu twórczości estradowej. 20.05 ,,Głos ma prokurator''. Film fabularny. 21.15 Dziennik.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 117

Леанард Падгорскі-Аколаў

Са зборніка «Беларусь» (1922—1924)

## ГАСЦІНЕЦ

Як шырока, як сардэчна і як сумна:
Беларусь то! Далі яе і раўніны,
Вёскі, сеяны далонню скупою, удумнай,
І зноў поле аж па лесу рубеж сіні.

Беларусь то! Па яе шырокіх гонях
Грае вецер жытняй нівай залатою,
І гасцінец, што ў цяні бярозак тоне,
Паўзе стагоддзямі ўдалеч пехатою.

З Маладзечна, з Навагрудка ці з Ашмянаў
Сонна цягнецца шырокі і зялёны
К гарадам калісь далёкім, мураваным,
Да краін нязнаных, лесам затаёных.

Сядзьма тут, ля гаваркой белай бярозы —
Гасцінец шмат паходаў зведаў справы —
Колісь шла ў пылу пяхота і абозы,
Натоўп конных тратаваў яго муравы.

Часам нехта гнаў каляскай ці карэтай,
Запрэжанай у пяць стаеннікаў імклівых.
Сёння пуста, сумна тут, сіроча гэтак —
Быццам вымер гэты край бязмежных ніваў.

Толькі часам, пыл здалёк узняўшы, возам
Нехта сонны скрыпіць, цягнецца сюдою,
І зноў ціш і даль... Адно ўгары бярозы
Шэпчуць штосьці па-беларуску між сабою.



*

О ты, далёкі мне, ты — незаменны,
Ты беларускі мой краю зялёны.
Там недзе, як колісь, тхненнем вясенні
Твае ўзлонні галубіць вецер сонны.

Там, дзе луга заліўнога тоні,
Раздолле спавіта думай залатою,
Жаўронак у цішы дрыжачай звоніць,
І кружыць шпак над свежаю раллёю.

Прывольны гоман сосан з ізумруда.
У садзе вецер яблыню калыша,
І хавае елка голаў ад ветра зуду
Ды ў небе залаціцца жарам шышак.

Бялее ціха дом двухпавярховы
З верандай шкланяй і драўляным ганкам,
З дзвярыма, адчыненымі да паловы,
Дзе мухі звыклі грэцца зольным ранкам.

Блакіт, што рассмяяўся па-над домам
Тры топалі раскроілі вярхом кашлатым,
А вышэй — буслы снуюць без стомы
І ззяе хмарка... А мяне няма там.

З польскай пераклаў Мікола Гайдук




Хоць сыплецца неба каскадамі зор,
Хоць хмары вісяць над вяршынямі гор,
Хоць штормамі пеніцца грознае мора,
Хоць шчасце на свеце гуляе, ці гора —

Душы не кранаюць вятры штармавыя, —
Усё сэрца занята Табою, Марыя!
Хай стогнуць вятры, акіян няхай вые,
Мне радасна, светла з Табою, Марыя!

Што жахі магільнай, сырой цемнаты, —
Калі ў маім сэрцы цвіцеш сёння Ты?..
Што — шлях шматпакутны цярпенняў і мук, —
Калі чую дотык тваіх мілых рук?..

Што — церні, пакуты жыццёвых дарог, —
Я вуснамі чую цяпло тваіх ног!..
Што — шэрыя скроні ад стратаў і слёз, —
Калі чую пах тваіх любых валос?..

Ці ёсць што на свеце цяплей і ярчэй
Тваіх ненаглядных каханых вачэй?..
Ты будзеш мне вечна, любімая, сніцца,
Жыцця і надзеі, і шчасця крыніца!

А. Чэмер

(УРЫВАК АПОВЕСЦІ ДЛЯ МОЛАДЗІ)

Вогнішча ўвечары ўдалося надзвычай. Наладзілі яго ля самюсенькага берага; абкапалі раўчаком, адгарнулі навокал кастрыцу, каб не нарабіць пажару. Кіра назбірала проста крушню сасновых шышак, ад якіх добры жар. Прыйшоў стары ляснік Мацюкевіч і прынёс у брызентавай торбе сырой бульбы. Пяклі і смакавалі яе як нешта найсмачнейшае ў свеце. Ляснік абяцаў навучыць за другім разам пячы рыбу на агні.

Ляснік Мацюкевіч прыбіраўся расказаць цікавую гісторыю — прасілі яго і Кіра, і Саша, і маці, і бацька — калі ў тую ж хвілю данёсся далёкі ды выразны плач. Гэта не быў заяц, гэта напраўду плакала дзіця там, дзе ўдзень збіралі толле.

Мацюкевіч аж устаў, і ўсе паўставалі. Па возеры паскакаў бляск ад полымя, у блізкім чароце сонна заквакалі дзікія качкі, пад ногі поўз халодны ветрык ад вялікай вады, раздуваючы жар.

— Што гэта? — маці, занепакоеная не на жарты, углядалася ў чорную сцяну бору.

— Ідзем, — сказаў ляснік да бацькі.

— І я з вамі, — папрасіўся Саша.

— І я! — Кіра таксама хацела ісці.

— Не ўсе, — сказаў бацька.

— Дзяўчынка можа ісці з намі, — сказаў ляснік, паказваючы на Кіру. — А хлопец павінен застацца пільнаваць домік. Трэба, каб хто з мужчынаў застаўся на месцы, — дадаў ляснік Мацюкевіч, каб пацешыць Сашу. Ляснік меў рацыю.

У Кіры загарэліся вочы. Саша і маці пайшлі да доміка.

— Ідзі, Кіра, пераабуйся ў гумовыя боты, — сказаў бацька. Ноч. У туфлях пакалечыш ногі, наступіш на вужа... І вазьмі электрычны ліхтарык, — прыпомніў ёй.

— Добра, тата.

Пакуль ляснік Мацюкевіч выбіў махорку з люлькі, Кіра вярнулася з доміка ў гумовых ботах, курткі і з электрычным ліхтарыкам. Ляснік выясніў Кіры, што яна павінна клікаць дзіця, якое можа забаяцца голасу дарослых людзей.

Ляснік узяў ліхтарык, Кіра ішла на другім месцы, а бацька ззаду. Ляснік час ад часу запальваў ліхтарык, калі праходзілі праз мокрыя мясціны ў ялінавым лесе, дзе так цёмна, быццам вочы перасталі бачыць. Чуваць, як парыпваюць старыя яліны, гудзіць бліз твару камар, потым два камары, потым многа. Злятаюцца на бляск.

Калі выйшлі з ялінавага лесу ў сасновы, зрабілася відней, на небе мігцелі зоркі. Месяц яшчэ не ўзыходзіў.

Пасталі.

— Здаецца, ужо недалёка? — сказаў бацька. Плач дзіцяці паўтарыўся, калі праходзілі яшчэ цераз ялінавы лес.

— Так, — ляснік ляпей ведаў ваколіцу. — Яно павінна быць недзе тут, зараз гара.

— Крыкні, Кіра.

— Го-оо-гооо-о... Дзе ты? Дзе ты-ыы-ы?!

Рэха паляцела аж за возера і распалася ў палянах. Лес маўчаў, растапырыўшы ў неба касалапыя цені. Рушылі пад гару, Кіра спатыкнулася на карэннях, якія, бы расшчэмленыя пальцы бруднай рукі, выставалі ад пачарнелага пня. Ішлі асцярожна, як толькі маглі, каб не нарабіць шуму. Ляснік Мацюкевіч нешта пачуў і зашаптаў да Кіры, каб болей не клікала.

На гары, аднак, нічога падазронага не прыкмецілі. Цямнелі плямы сырой кастрыцы, разгрэбанай галлём, якое валаклі бацька з Сашам. Відаць адсюль кавалак возера, а дакладней, Зялёную бухту. Сосны і яліны ссоўваліся ўніз да бялеючых бярозак і пакудлачаных алешын у балаціне. Узыходзіў месяц — вялізнае чырвонае кола выкацілася памалу з падзёўбанай адзінокімі соснамі Змеевай паляны. У месячным бляску пабялеў камень-валун, аб якім ніхто не думаў і цяпер усе паглядзелі туды: за валуном задрыжэў заціхлы плач, закончаны імклівым шолахам у кустах.

— Мы тут! — крыкнула Кіра не сваім голасам.

Пабеглі да валуна. Кіра напаткала тыя самыя сляды, кіраваліся ў кусты і далей, у малінавыя зараснікі.

Нікога нідзе.

У той час Саша, застаўшыся з маці ў доміку, сядзеў на самаробным ганку. Унізе, ля самога берага, загасала вогнішча. Раптам выбухнула высокае полымя, асвятляючы цэлы бераг аж па шапкі соснаў. Саша падумаў, што гэта вярнуліся бацька, ляснік і Кіра. Зразу не здзівіла яго, што ніхто не гаворыць, а каля вогнішча пуста.

— Маму, вярнуліся! — крыкнуў у расчыненыя дзверы, бачачы, як маці заварвае на прымусе чайнік з малінавым адварам.

Спрытна саскочыў з ганку і пабег. Полымя разгаралася з-пад горбы кінутага ў жар




хмызняку і сасновага сухападу. Саша прыпыніўся як укопаны, разглядаўся і крычаў:

— Тата! Кіра! Дзе вы?

Цягнулася так некалькі хвілін. Саша адступіўся да доміка.

Маці запытала:

— Дзе яны?

— Не прыйшлі.

— Саша! Як табе не сорамна выраблядь такія штукі! — загневалася маці.

Саша прамаўчаў. Ён зразумеў, што тут хтосьці ёсць. Хто?

Калі полымя паслабела і пацямнеў бераг, Саша сказаў:

— Я зараз прыду, мама.

— Не лазь нікуды.

— Я выйду і прыду.

— Час кладавіцца спаць, — сказала яшчэ маці.

Саша нячутна прачыніў дзверы і выслізнуўся на ганак, прысеў і паволі споўз пад куст ядлаўцу, што рос пад акном. Перапоўз да другога куста, бліжэй берага. Затым, прыбярэжнымі сцежкамі прасунуўся пад нізкарослы вербалоз, адкуль было да вогнішча не далей, чым на два скокі. На лытку дзыганула жаба, але Саша ляжаў нерухома. Жаба пакаўзнулася на лытцы і ўпала ў траву. На плыткую ваду выплыў малады шчупак і пагнаўся за рыбкамі. Саша час ад часу паглядаў на тлеючае акно доміка, там маці бразгатала пасудаю, рыхтуючы гарачую вячэру.

У бок ад вогнішча зашахацелі чароты, расхіліліся, прапускаючы прыгорбленую голую постаць у падводных акулярах і з плаўнікамі на нагах. Даволі голасна пляскаючы плаўнікамі, плывец падыходзіў да вогнішча.

Саша чакаў, што будзе далей.

Плывец нахіліўся, узяў тоўстую галіну і з размахам ударыў па галавешках, раскідаючы іх аж у ваду. Узняўся дым.

— Што ты чаўпеш там! — крыкнула маці, пачуўшы псычанне галавешак у вадзе. У лес выройваліся хмары іскраў.

— Стань!! — закрычаў Саша. Схапіўся і падскочыў да чалавека з возера, аберуч сціснуў за руку з галінаю, каб выламаць на спіну і пакаціць яго. Хвілю мацаваліся, Сашу выядаў вочы дым, рука аказалася нейкай слізкай і халоднай. Той ірвануўся, пераскочыў па-над жарам і знік у дыме. Саша сігануў за ім, пакаўзнуўся на галавешцы і ўпаў тварам у плыцізну, давячыся пяском, перамешаным з мулам. Вада каля берага забушавала і, калі падняўся на ногі, беглі ў возера блішчастыя кругі. І нічога больш. Ужо свяціў месяц.

— Як ты выглядаеш! — пачуў за сабою голас маці.

Твар, шыя, рукі ў гразі, на адзенні дзіўная пена.

— Я памыюся і ўсё пачышчу, — сказаў Саша.

Пайшоў на памосце абмыць бруд. Абмыўшыся сеў адпачыць крыху. Пена на адзенні гэта крэм, якім шмаруюцца плыўцы, выбіраючыся на вялікую дыстанцыю.

На сярэдзіне возера пляснуў хвастом здаравенны шчупак. Саша ўспомніў, што шчупакі рэдка палююць на глыбінях, пераважна, займаюцца сваім разбоем пры берагах, дзе гняздзіцца ў зелішчы дробная рыба.

Устаў.

У цемені другога берага, куды не даходзіла месячнае святло, загараўся і гас зялёны агеньчык. На лініі агеньчыка, на спакойнай гладзі, галава чалавека, напэўна таго плыўца. Ён пераплыў ужо палову возера! Саша ўсведаміў сабе, што рука, за якую ўхапіўся, была даволі слабая, нягрубая, непадобная да рукі дарослага чалавека. А і ростам той быў невысокі. Саша ўпэўніўся, што меў дачыненне з хлопцам, якога хтосьці чакаў на тым беразе.

Аб гэтым здарэнні расказаў Кіры назаўтра.

Падумаўшы, Кіра сказала:

— Камусьці залежыць на тым, каб мы перапалохаліся.

Сакрат Яновіч



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


Інструктар Галіна Мікулік праводзіць заняткі на гайнаўскім басейне.

# ПЕРШАЯ „ЛАСТАЎКА“

У ліпені г.г. на басейне «Пушчы» ў Гайнаўцы дзейнічала школка плыўцоў, якую наладзіў Беластоцкі акруговы саюз плыўцоў супольна з куратарыяй. Заняткі вялі інструктары — вядучыя беластоцкія спартсмены — Галіна Мікулік і Сяргей Тарасевіч.

На гэтых першых зборах будучай «зборнай» нашага ваяводства было 65 дзяцей. Апрача заняткаў на басейне праведзена шмат практыкаванняў агульнага развіцця. Рэшту часу дзеці праводзілі так, як гэта робіцца на ўсіх іншых летніх канікулах.

Дзеці праявілі вялікую ахвоту да заняткаў у вадзе.

Хвалім ініцыятыву. Справа не толькі ў агульным фізічным развіцці (паказалі гэта праведзеныя доследы) шчаслівай групкі выбраных дзяцей. Часта прэса звоніць трывогу, падаючы лічбы сумнага баланса смерці на рэках і азёрах. Гэтая групка будзе не толькі дасканала плываць, але будзе таксама вучыць плываць іншых. Гэта будзе моладзь, якая патрапіць добра праводзіць вольны час. Каб толькі болып такіх «ластавак» у нашым ваяводстве.


Плыванне з дошкай.

Тэкст і фота В. Гжэгорчык

(Працяг са стар. 1)

# Напярэдадні

Напэўна брата забяруць у войска. Мо ўжо не ўбачу больш яго. Трэба адсюль уцякаць дамоў. І то неадкладна, — думаў я, — хай толькі вернецца Дыбальскі.

Вярнуўся пасля няцэлай гадзіны.

— Пане Дыбальскі, мне трэба дамоў, брата могуць узяць у войска, трэба развітацца. Пазычце ровар.

— Дам табе ровар, а заўтра вайна. Толькі яго і буду бачыць.

— Пане Дыбальскі, што вы гаворыце, тэта ж толькі чатырнаццаць кіламетраў, мы ж знаёмыя, у кожную хвіліну звярну.

— Знаёмыя, але ровара не дам! Тут трэба пакавацца, а ён дамоў.

Чорт з табою, — падумаў я, — пайду пешкі — пакуйся сам, — але спытаў:

— Як гэта, пакавацца? Ужо? Вайны яшчэ няма, і не вядома ці будзе, а вы ўжо пакуецеся... Дык мы ж моцныя...

— Вось менавіта, — спыніў мяне, — мы моцныя, вельмі моцныя, таму на ўсялякі выпадак, трэба пакавацца, а хутчэй за ўсё, закопваць у зямлю.

— Выбачайце, вы самі разумееце, што я павінен быць у бацькоў толькі з увагі на брата.

— Калі павінен, дык ідзі, — буркнуў.

Не развітаўся я з ім. Спакаваўся, развітаўся з паняй Дыбальскай і хлопцамі. Хоць і дакучалі яны мне, але Лопка і Чэська я любіў. Адыходзячы падумаў я: мо не сустрэнемся больш?

Але сустрэліся. У 1945 годзе. Я, як афіцэр Народнага Войска Польскага, яны, як члены банды крывавага Млота, які лютаваў у нашым павеце.

(З падрыхтаванай да друку кнігі ўспамінаў)


«Садоўнік» Фота: А. Карпюк

ПАРТЫЙНЫЯ ТЭЗІСЫ

# РЭВІЗІЯНІЗМ

Апошнім часам часта чуем гэтае слова. Шмат хто вяжа яго з апошнімі дзесяцігоддзямі. Але яно не такое ўжо новае. Як палітычная з'ява нарадзілася яно пад канец XIX стагоддзя. У тым менавіта часе марксісцкія ідэі пачалі хутка распаўсюджвацца па ўсёй нашай планеце. Аднак, дарога, па якой ішоў гэты жыватворчы паход, не была выслана ружамі. Марксізм развіваўся ў вострай ідэалагічнай і палітычнай барацьбе. Буржуазія, пачуўшы небяспеку з боку рэвалюцыйных ідэй, разгарнула супраць марксізма наступленне. Асабліва паказала яно свае кіпцюры ў Германіі. Менавіта там у рабочым руху з'явіліся патрабаванні «адмаладжэння» марксізма. Патрабавалі гэтага сацыялдэмакраты. Сярод іх выдзяляўся Эдуард Бернштэйн. Яго дактрына накіравана была на рэвізію асноўных марксісцкіх тэзісаў. Адгэтуль і ўзнікся напрамак, які называем рэвізіянізмам. Прадаўжальнікамі гэтага напрамку былі, між іншым, Каўтскі і Троцкі.

Што такое рэвізіянізм цяпер, якія яго характэрныя рысы?

Сучасныя імперыялістычныя палітыкі зразумелі, што сацыялізм закараніўся ў свядомасці працоўных мас так глыбока, што адкрытае выступленне супраць яго грамадска-эканамічных асноў пазбаўлена шанцаў. Адначасова суадносіны мілітарных сіл паміж сацыялістычнай сістэмай і імперыялізмам, асабліва магутнасць СССР, пазбавілі імперыялістаў стаўкі на ваенную інтэрвенцыю, на «вызваленне» народаў сацыялістычных краін мячом.

Цяпер імперыялістычныя стратэгі галоўны акцэнт кладуць на ідэалагічную дыверсію. Канкрэтныя прапагандныя формы яе дапасоўваюць да канкрэтнага становішча ў кожнай сацыялістычнай краіне. Генеральны напрамак наступлення абліччаны перш за ўсё на падарванні сацыялістычнага ладу ў паасобных краінах, а таксама на расслабленне дружбы паміж сацыялістычнымі краінамі. Імперыялізм паставіў на рэвізіянізм. Яны павінны быць зброяй, якая разложыць сацыялізм і камуністычныя партыі з унутры.

Ва ўмовах сацыялістычнай сістэмы рэвізіянізм імкнецца аднавіць буржуазна-ліберальныя асновы свабоднай ігры палітычных сіл, адкрыць дарогу антысацыялістычным сілам. Б'е ў марксізм як ідэалогію. Перш за ўсё атакуе асновы кіруючай ролі марксісцка-ленінскай партыі, ідэі дыктатуры пралетарыята, тэорыю класавай барацьбы.

У нашай краіне будаўніцтва сацыялізма адбываецца ў барацьбе супраць антыкамуністычных сіл і тэндэнцый. Спадчына капіталістычнага ладу ўсё яшчэ аказвае пэўнае ўздзеянне на павудзіны часткі грамадства, асабліва на некаторыя кругі інтэлігенцыі. Імперыялістычныя дыверсійныя цэнтры ідэалагічнай і псіхалагічнай вайны выкарыстоўваюць для сваіх мэт рэакцыйныя сілы ў паасобных сацыялістычных краінах. Адносіцца гэта і да Польшчы.

«Галоўная лінія палітычнага падзелу, — чытаем у тэзісах на V з'езд ПАРП, — праблягае ў нашым грамадстве паміж сацыялізмам і ўсялякіх адценкаў рэакцыяй, паміж палітыкай пабудовы новага, справядлівага грамадскага ладу і цеснага злучэння нашай краіны з супольнасцю сацыялістычных краін, і сіламі, якія хацелі б Польшчу звязаць з імперыялізмам, з капіталістычным захадам, вярнуць назад на старую згубную дарогу. На гэтым грунце адбыліся таксама сакавіцкія выпадкі ў нашай краіне і пад гэтым вуглом трэба іх ацэньваць».

Народная ўлада, партыя, падтрымана рабочым класам і ўсімі патрыятычнымі і сацыялістычнымі сіламі ў Польшчы загарадзілі дарогу працаўнікам сацыялізма.

Г.В.

# ПРАЯВЫ СУЧАСНАСЦІ

Сустрэліся мы ў Рыбалах. Сустрэчы гэтай, вядома, не планавалі. Трактарыст Пятро Яканюк прыехаў у вёску араць пожню, а я — назіраць за праявамі і зменамі сучаснасці нашых вёсак. Прыселі тады мы на вясковай лавачцы і завялі гутарку пра справы паўлаўскага сельскагаспадарчага гуртка, у якім Пятро Яканюк працуе трактарыстам. І не толькі таму, што мне хацелася даведацца, як актыўна дзейнічае гэты гуртом, але перш за ўсё таму, што гэтыя справы найбольш блізкія майму субяседніку. Ён яшчэ малады, вельмі малады. Гадоў каля дваццаці, а ўжо стыхіяй яго жыцця і надзённым хлебам з'яўляецца механізацыя. Гутарка пра гэтыя справы з'яўляецца для яго так звычайнай, як калісьці, ды часам яшчэ і цяпер, гутарка старэйшых людзей аб конях буланых, аб косах і сярпах.

— Гуртом у Паўлах існуе ад 1960 года, — гаворыць Пятро Яканюк. — Зараз налічвае ён каля 40 членаў. Старшынёю гуртка з'яўляецца Ян Іванюк. Апрача яго ў склад праўлення ўваходзяць: Лявонь Харытанюк, Мікалай Садоўскі і Ян Галубоўскі. Гуртом свайё дзейнасцю ахопліваюць пяць вёсак: Паўлы, Рыбалы, Целушкі, Канюкі і Давідавічы. Маем тры трактары, дзве снопавязалкі, два апрыскавальнікі, розныя плугі і шмат іншых дробных сельскагаспадарчых прылад.

— Як праце ваш гуртом, якіх выкікаў ён дабіўся? — пытаю.

— Пра вынікі цяжка мне гаварыць. Гэта справа праўлення. Мне трэба клапаціцца толькі пра тое, каб мой трактар быў заўжды спраўны і каб старанна выконваць сваю працу. Ведаю толькі, што наш гуртом дэфіцыту не мае.

— А што вы робіце зараз у Рыбалах?

— Пагледзіце, — трактарыст паказвае талеркавыя бораны падвешаны да трактара. — Сяляне сеюць паплёны, дык трэба як найхутчэй араць пожню.

— Ці даўно ў вашых вёсках гаспадары сеюць паплёны?

— Больш масава пачалі іх сеяць нядаўна, у апошніх гадах. Толькі Віктар Галубоўскі з Паўлаў даўжэйшы час гэтым займаецца і карысць вялікую з гэтага мае.

— А як вам асабіста працуецца ў гуртку?

— Чаго мне? Не наракаю! Колькі зараблю, дык усё маё. І чаго больш трэба? Плоцяць нам ад гадзіны працы: 8 зл за гадзіну і дадаюць яшчэ да гэтага па два злотых за кансервацыю трактара. У майго бацькі гаспадарка малая, а я малады, кавалер яшчэ, патрэбы, значыць, вялікія маю: і апранушца як след, і пагуляць таксама трэба. А да таго яшчэ люблю працу на машынах.

...Трактары, снопавязалкі, сеўнікі — гэта эмблемы сучаснай вёскі — нашай, беластоцкай вёскі. І гэтая тэхніка знаходзіцца ў руках найчасцей маладых людзей — аднагодкаў нашай маладой народнай дзяржавы.

Прапаную крыху задумацца над гэтай з'явай. Вучоныя даказваюць, што найбольш значны прагрэс у развіцці чалавецтва здзейсніўся тады, калі чалавек для сваіх практычных патрэб вынайшоў звычайнае кола, калі з каня пересеўся на воз. А вось такія маладыя людзі, як трактарыст Пятро Яканюк, у вельмі кароткім часе пераселі з каня і воза на трактар, авалодалі магутную тэхніку і прыстасавалі яе для практычных патрэб чалавека. Гэта таксама эпахальны крок у развіцці нашай грамадскасці. Здзейсненне яго было магчымае толькі дзякуючы народнай уладзе.

Ісціна гэтая нібы агульнавядомая, але ў штодзённым жыцці як жа часта яе не заўважаем.

І трактарыст Іванюк і, скажам, я таксама — сыны вёскі. Які ж быў бы наш лёс пры іншым палітычным ладзе нашай дзяржавы? Пытанне чыста тэарэтычнае, але адказ на яго вядомы. Пятро Яканюк наўрад ці ездзіў бы трактарам, а я напэўна не напісаў бы, не змог бы напісаць пра яго справы артыкул. І для яго, і для мяне даступнай была б прафесія парабка ў нейкага памешчыка, або цяжкі лёс малазямельнага гаспадара.

З такімі думкамі развітаўся я з маім субяседнікам, і мы раз'ехаліся па сваіх дарогах. Пятро Яканюк паімчаўся трактарам на поле, а я на службовай аўтамашыне — у суседнюю вёску, каб там зноў падглядаць праявы сучаснасці.

Віктар Рудчык



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

(Працяг са стар. 1)

# З планам культуры на „ты"

жыццё першага пункта, маем вялікія цяжкасці, часта аб'ектыўныя.

**— Зразумела, мы гаворым вельмі фрагментарычна аб плане культуры ў вашым павеце, а паколькі часу мала, хацелася б пачуць некалькі слоў аб аматарскім мастацкім руху.**

— Калі ласка. Аматарскі рух —гэта найбольш распаўсюджаная форма працы к.о. Толькі тэатральных калектываў налічваецца ў нас каля 60. Перспектыўны план не прадбачвае іх пабольшваць. Трэба сказаць, што 70% з вышэй прыведзенага ліку, гэта калектывы вельмі актыўныя, і наша заданне — дбаць аб іх узровень. Пленум Павятовага камітэта ПАРП даручыў нам павялічыць дапамогу аматарскім калектывам з боку працаўнікоў ПДК і БГКТ, паколькі многія з іх — гэта іменна беларуская. Зрэшты, маем у нас у Бельску вядомы, не толькі ў павеце, хор БГКТ. Мы наведалі ўсе гэтыя калектывы. Кожны квартал арганізуем кіраўнікам калектываў семінары, у якіх прыймаюць удзел акцёры тэатра імя Вянгеркі. Чатыры асобы накіравана на трохгадовы курс у ВДК.

**— Якія прапановы на будучыню?**

— О! Іх многа, але асноўныя: гэта правядзенне рамонтаў святліц у Відаве, Сабятыне, Красным Сяле, Пульшах, Шмурлах, а таксама закончыць пабудову ўспомненых вышэй святліц. Усё зрабіць, каб павысіць узровень адукацыі нашай кадры. У большай меры да культурнай працы на вёсцы прымаць інтэлігенцыю, праводзіць аўтарскія сустрэчы ў кожнай сядзібе ГРН. І безумоўна, многа, многа іншых, таксама важных і вялікіх, прапаноў.

Дзякуем за размову.

Размаўляў **А. Карпюк**




■ 11 жніўня ўтапіўся ў рэчцы Супрасль жыхар Беластока Станіслаў Бакер, якому было 40 год. Купаўся ён у недазволеным месцы.

■ На світанні 11 жніўня на чыгуначнай дарозе недалёка ад хутара Капляны ў Беластоцкім павеце цягнік, які ехаў з Седльцаў у Беласток, пераехаў Генрыха Зелінскага (22 гады) з вёскі Шэрэносы ў Беластоцкім павеце. У час уступнага следства было ўстаноўлена, што пакойнік моцна п'яны вяртаўся з танцаў, якія адбываліся гэтага дня ў вёсцы Капляны. Відавочна перабіраючыся праз чыгуначнае палатно упаў ён на рэйкі і не мог устаць.

■ 10 жніўня на панадворку ля вуліцы Міцкевіча 21 у Беластоку знойдзена мёртвага чалавека. Пасля праверкі аказалася, што быў гэта жыхар Беластока Рамуальд Альшэўскі, якому 54 гады. Лекар сцвердзіў, што памёр ён праўдападобна ад парока (завалу) сэрца.

■ У Заблудаве на скрыжаванні вуліц Бельскай і Міцкевіча Анна Жукоўская (40 год) з Беластока наехала сваім «Масквічом» на Анастазію Баранскую (65 год) з Дабрынёўкі. У выніку гэтага Анастазія Баранская пасля дзвюх гадзін памерла ў бальніцы.

(Асака)

## У кіёску

У кіёску ў Клюковічах мясцовыя сяляне раскупоўваюць штодзённа каля 30 экземпляраў «Газеты Беластоцкай», 4 «Трыбуны Люду», 4 «Нівы», 7 «Новай Всі», 25 «Пшыяцюлак», 10 «Кабета і жыцё» і па некалькі экземпляраў іншых часопісаў. (п)

**ЦІ ВЫ ЎЖО ПАДПІСАЛІСЯ НА „НІВУ"?**

# Фабрыка святла і цяпла

Калі наш далёкі продак вынайшоў агонь, стаўся панам свету. Другую рэвалюцыю перажыў чалавек, калі адкрыў электрычную энергію. Зараз нам цяжка ўявіць сабе жыццё без яе. Была б гэта апакаліптычная карціна, мёртвае жыццё. Бо электрычнай энергіяй жыве прамысловасць, транспарт, сельская гаспадарка, друкуючы кніжкі і газеты, будуюцца дамы і свеціцца малая лямпачка ў нашай хаце.

Малады інжынер з Беластоцкай электроўні, абсальвент Беластоцкай Вышэйшай інжынерскай школы, Сяргей Плева прынёс у рэдакцыю матэрыял, які гаворыць аб дасягненнях яго фабрыкі святла і цяпла. Не інжынеру цяжка разабрацца ў тэхнічных тэрмінах і знаках, але вобраз пасля прачытання матэрыялу не пакідае сумнення: беластоцкія энергетыкі зрабілі 1000-мілёвы крок. Зрэшты, каб даказаць гэта, не трэба ж быць інжынерам. Аб чым жа гавораць драты і слупы на палях і пры, не заўсёды яшчэ найлепшых, дарогах Беласточчыны? Аб чым жа гавораць электрыфікаваныя вёскі, тэлевізары ў клубах і хатах?

Да вялікага дасягнення Беластоцкай электрастанцыі трэба залічыць збудаванне цеплаэлектрастанцыі: Беласток 1 і новая — Беласток 2, якая толькі пачала працу ў гэтым годзе. Яна разбудоўваецца. Разбудоўваецца таксама сетка электрычнага абагравання ў горадзе (адсюль гэтыя велізарныя раскопкі на вуліцах Беластока).

Пытаю інж. Плеву, ці ўсю патрэбную ваяводству энергію робім у сябе.

Аказваецца, не. Беласток мае дзве лініі высокага напружання, якімі атрымліваем электычную энергію. Першая, напружаннем 110 KV (кілавольтаў) — гэта лінія агульнадзяржаўнай электрычнай сістэмы. Другая, напружаннем 220 KV — лінія міжнароднай сістэмы ў рамах РВПГ, у скарачэнні званая лінія Рось. Яна перадае магутную энергію з Беларускай рэспублікі. Беластоцкая электрастанцыя сваёй раздзельнай разменьвае гэтую энергію на меншыя порцыі і пасылае ў трансфарматары, якія зноў раздзяляюць яе на 220 V. У такой пастаці мы бярэм святло ў нашых хатах.

Беласточчына спажывае 309696 MWh (мегаватагадзін) электраэнергіі. З гэтага 151628 MWh атрымлівае з БССР па лініі Рось—Беласток.

Чаму выгадней нам браць электрычную энергію з Беларусі? Проста, значна танней. Збудаваць лінію высокага напружання Беласток—Слёнск выйшла б даражэй. А наша дружба з СССР не толькі ж на словах...

Цікавыя рэчы запісала ад інж. Плевы на тэму вёскі. Электрыфікацыю вёскі вядзе спецыяльнае прадпрыемства, але абслуга належыць да электрастанцыі.

С. Плева: — Беластоцкая вёска мала бярэ электрычнай энергіі.

— Добра гэта ці кепска?

— Кепска. Уявіце сабе — адна невялікая вёска ў нас бярэ столькі электраэнергіі, колькі адна большая кватэра ў Беластоку. Напрыклад: 200 KWh — сярэдняя спажыцця энергіі за два месяцы ў Беластоцкай кватэры і столькі ж сама спажывае 10 гаспадароў на вёсцы.

— Ці абазначае гэта, што хочаце, каб больш вёска брала энергіі?

— Хочам. Неадпойчы страты ў трансфарматары бываюць большыя, чым само спажыццё энергіі з іх.

— Ці абазначае гэта таксама, што вам прыемней было б, каб у вясковых хатах замест 40-ватавых лямпачак свяціліся 100-ватавыя?

— Хочам каб было вельмі відна ў вёсках

— Маеце так многа энергіі?

— Маем. Хопіць і на халадзільнікі, і сціральныя машыны, і на ўсе электрычныя машыны. (вл)

# Фотарэпартаж з рынку





У Бельску, хіба як і ў кожным горадзе ёсць рынак. Вялікі рынак адбываецца ў чацвяргі, калі з'язджаецца сюды шмат народу. Зараз пасля вайны змяшчаўся ён каля ратушы, потым адсунулі яго крыху далей, у бок горада, каб урэшце размясціць яго далёка, амаль у пустым полі, за горадам.

Аднак у горадзе, каля «галь», надалей астаўся малы рынак. Кожны дзень прадаюць тут малако, смятану, сыры, а найбольш летам гародніну і садавіну. Усё ж і гэтае месца найбольш ажыўляецца ў чацвяргі, калі ў Бельск прыязджаюць купцы і прадаўцы з-за мяжы Бельскага павета. Гэта месца не толькі гандлю, але сустрэч і гутарак сваякоў і знаёмых. Наш рэпарцёр прывёз здымкі з малога рынку ў Бельску.

Тэкст і фота А. Карпюк




**РАБОЧЫ РУХ**

Publicystyka konspiracyjna PPR 1942—1945. Wybór artykułów. T. III. 1944—1945. Warszawa 1967 KiW zł 50.00 (Zakład Historii Partii przy KC PZPR).

Ад 1942 да пачатку 1945 года выходзіла ў межах польскіх земляў 97 часопісаў ППР, 31 часопіс Народнай Гвардыі і Народнай Арміі, 22 часопісы КРН і 6 часопісаў іншых груп звязаных з ППР. Улічваючы газеты, якія выдаваліся антыфашыстамі да паўстання ППР і рэвалюцыйнымі групамі на Заходняй Беларусі і Украіне, трэба сказаць, што разам ад 1939 — 45 года канспірацыйнае рэвалюцыйнае левае крыло выдавала 216 часопісаў.

*

Historia polskiego ruchu robotniczego. 1864—1964. T. I—II. T. I — 1864—1939 t. II — 1939—1964. Warszawa 1967, KiW zł 100 (Zakład Historii Partii przy KC PZPR).

Першая праца, якая паказвае рабочы рух перад паўстаннем Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пра многія справы гаворыцца тут упершыню. Праца з'яўляецца ў пэўным сэнсе сінтэзам гісторыі вялікіх грамадскіх рухаў, якія ніколі не мелі канца, а тым больш рабочы рух, які жыве і развіваецца і ў наш час.

**ГІСТОРЫЯ**

Dziejów Polski blaski i cienie. Oprac.: Marian Turski. Warszawa 1968 KiW zł 33.

Перадавыя вучоныя — гісторыкі Польшчы злажылі свае цаглінкі на гэтую папулярна-навуковую кніжку. Гэта збор гістарычных замалёвак, таких малых папулярна-навуковых прац пра самыя важнейшыя з'явы ў гісторыі Польшчы.

*

Dzieje oręża polskiego (963—1945). Praca zbiorowa w 3 tomach. Warszawa 1968. MON. zł. 52.

Як і з кім біліся ў розныя гістарычныя часы: ад найдаўнейшых, да канца другой сусветнай вайны. Кніжка вельмі зацікавіць моладзь і... мужчын.

**ГАСПАДАРКА**

Zbigniew Landau, Jerzy Tomaszewski: Gospodarka Polski Międzywojennej 1918—1939. W czterech tomach. zł 55.

Нястабільнасць гаспадаркі Польшчы ў 1918—39 гадах многія яшчэ дасканала памятаюць. Велізарная інфляцыя, якая пачалася ў 1923 годзе, цяжкасці з прамысловасцю, гандлем, розныя аспекты гаспадаркі паказвае кніжка, аналізуе прычыны.

**УСПАМІНЫ**

Jan Dąb-Kocioł: Moje życie, praca, myśli. Warszawa 1967. KiW. zł 25.

„Tutaj, w poleskiej gluszy pokutowały jeszcze echa pańszczyzny, co mogłem wielokrotnie stwierdzić, obserwując życie tamtejszych mieszkańców. Dziwiłem się, że późnym wieczorem, a bywało, że i w nocy chłopi tamtejsi młócą zboże przy świetle kaganków, w dzień natomiast śpią lub wałensają się po obejściu bez żadnego celu. Jak się później dowiedziałem, nawyk ten pozostał z dawnych czasów, kiedy to chłop pańszczyźniany zmuszony był za dnia pracować we dworze, wieczorem zaś, lub nocą krzątał się na swoim."

Кніжка напісана проста, цёпла і цікава. Расказвае пра змены, якія адбыліся на працягу аднаго пакалення.

**САЦЫЯЛОГІЯ**

Rocznik demograficzny 1945—1966 Warszawa 1968. GUS, zł 50 (seria: Roczniki branżowe. Nr 10).

Акрамя статыстычных гадавікоў ГУС выдае так званую серыю бранжавых гадавікоў. 10 том з гэтай серыі называецца «Дэмаграфічны гадавік 1945—66.» Гэта вобраз грамадства ў лічбах. Як мы радзіліся, раслі, вучыліся, як і дзе працуем, усё багацце людскіх змен уважны чытач знойдзе ў гадавіку. (вл)



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАЖАРНІКІ З ПАЛІЧНАЙ

Добраахвотная каманда пажарнікаў у Палічнай існуе ад 1934 г. Налічвае цяпер 32 члены. Мае свой пажарны самаход. Начальнікам з'яўляецца Іван Пятручук. Іван Пятручук пачаў сваю дзейнасць у пажарнай камандзе з першага дня яе заснавання. Пачаткова быў выбраны намеснікам начальніка, а ад 1946 г. пачаў выконваць абавязкі начальніка. Гэта добры грамадскі дзеяч і арганізатар. Цешыцца вялікім аўтарытэтам сярод насельніцтва і павятовых улад.

Пажарнікі з Палічнай добра выконваюць свае абавязкі. У час трывогі хутка збіраюцца, слухаюць загадаў начальніка. Таму ў іх заўсёды прыкладная арганізаванасць падчас гашэння пажару. Пры пажарнай камандзе існуе і дзейнічае маладзёжная дружына, яна налічвае 12 членаў. Да яе належаць вучні сярэдніх гайнаўскіх школ і пачатковай школы ў Палічнай. Секцыйным з'яўляецца Аляксандр Вілюк, які працуе ў кляшчэлеўскім ПОМ-е.

Пажарнікі з Палічнай не толькі добра выконваюць свае абавязкі, але і добра працуюць. Ад іх заўсёды выходзіла ініцыятыва грамадскіх чынаў. Тут, напрыклад, нарадзілася думка пабудовы рамізы са святліцай.

Яны ў вольныя хвіліны займаюцца культурнай дзейнасцю. Маюць мастацкі калектыў, які добра працуе. Апошнім часам была падрыхтавана польская п'еса «Бзы», з якой самадзейнікі наведалі Дэбрываду, Дашы і Дубічы Царкоўныя. У бліжэйшым часе наведаюць і іншыя вёскі. Трэба падкрэсліць, што ўсе самадзейнікі ахвотна збіраюцца на рэпетыцыі і выязджаюць з канцэртамі.

**Мацейка**

## СВАВОЛЬНЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ

Нядаўна ў Боцьках (Бельскі павет) арганізаваўся жаночы харавы калектыў, які прыняў назву «Свавольныя дзяўчаты». Калектыў гэты карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод мясцовага насельніцтва.

**Тэкст і фота**
**П. Зінкевіч**

## У ГОНАР З'ЕЗДА

Павятовае праўленне водных суполак у Гайнаўцы прыняло абавязацельства ў гонар V з'езда ПАРП. Кіраўнік праўлення тав. Уладзімір Колнер на рабочай нарадзе пастаянных рабочых водных суполак 10 жніўня 68 года выступіў з прамовай адносна грамадскага чыну.

12 жніўня ў ранішніх гадзінах усе рабочыя паехалі ў раён Белавежскай пушчы, каб там ачысціць меліярацыйныя равы.

Выкананая праца ацэньваецца на 7250 злотых.

**Яраш**
Гайнаўскі павет

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Пазнаёмілася я з Мішай у працы. Працую ў малым гарадку і даязджаю з вёскі да працы штодзень роверам, а зімою наймаю кватэру. Міша працуе ў нас шафёрам. Я год таму назад кончыла сярэднюю адукацыю. Мне адразу не вельмі спадабаўся Міша, але потым штораз больш пачаў падабацца. Цяпер я пакахала яго і ён мяне таксама. Пастанавілі мы пажаніцца. Але калі я сказала аб гэтым бацькам, дык яны пачалі крычаць, а мама нават плакаць, што пашто яна мяне вучыла, каб выдаць замуж за хлопца, які мае толькі пачатковую школу. Мне 19 год, а яму 26. Сказалі мне не сустракацца з ім, а штодзень пунктуальна вяртацца да хаты з працы.

Што рабіць, Сэрцайка, ці паслухаць бацькоў (я ў іх адна) і сказаць аб усім Мішы, бо дагэтуль яму нічога не гаварыла, ці зрабіць так, як я сама думаю, і без дазволу выйсці замуж за Мішу?

**Марыся**

**Дарагая Марыся!** Не раю табе рабіць нічога без дазволу бацькоў. Аднак пастарайся ім вытлумачыць, што сёння ёсць вялікая магчымасць, каб Міша таксама кончыў сярэднюю школу. Важна, каб вы кахалі адзін аднаго, і каб Міша быў добрым чалавекам. Мне здаецца, што калі пагаворыш з бацькамі аб усім гэтым, яны напэўна згодзяцца на ваш шлюб.

**Жадаю вам усяго найлепшага**
**Сэрцайка**

## КУРС ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

Акруговае праўленне Саюза польскіх настаўнікаў і Ваяводскае прадпрыемства распаўсюджвання прэсы і кніжкі «Рух» у Беластоку арганізавалі двухтыднёвы курс для настаўнікаў — грамадскіх дзеячаў клубных радаў з Беласточчыны.

На курсе, які адбываўся ў днях 2—15 жніўня г.г. у Варшаве, узяло ўдзел 55 вясковых настаўнікаў з усіх паветаў Беластоцкага ваяводства.

Курс пачаўся аўтарскай сустрэчай з вядомым польскім пісьменнікам Эрнестам Брылем. З дакладам выступалі працаўнікі радыё і тэлебачання, літаратуразнаўцы і літаратурныя крытыкі, працаўнікі кінематаграфіі і кансерваторыі. Былі лекцыі і даклады на тэму перспектывічнага развіцця культуры на Беласточчыне, функцыі настаўніка-дзеяча ў сучасным вясковым асяроддзі.

Педагогі пашырылі свае веды са шматлікіх галін культуры, пазнаёміліся з лепшымі метадамі працы ў радах вясковых клубаў, дзяліліся сваімі поспехамі і няўдачамі.

Былі практычныя заняткі на тэму, як падрыхтаваць вечарыну прысвечаную XXV-годдзю Людовага Войска Польскага, як весці аматарскія калектывы і дыскусійныя клубы.

Слухачы хадзілі ў кіно і тэатр, аглядалі выстаўкі, музеальныя памятнікі, цікавыя даўнія будоўлі горада. Адбыліся экскурсіі ў такія падваршаўскія мясцовасці як: Жэлезовая Воля, Неборув, Аркадзія, Ловіч.

Тэкст і фота
**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

**Удзельнікі курса.**

## КАЛІ БУДУЦЬ ХОДНІКІ Ў ЧЫЖАХ?

Кожны напэўна чуў на Гайнаўшчыне аб Чыжах. Вёска немалая. Налічвае каля 180 гаспадароў. Ёсць тут грамадская рада, пачатковая школа, пастарунак міліцыі, пункт аховы здароўя, дзве крамы, а нават кіно. Адным словам, ёсць усё, што павінна быць у сучаснай вёсцы. Прабачце! Памыліўся. Няма ходнікаў. Цяпер яны модныя на вёсках. Нават у невялічкіх вёсках укладаюць. У Чыжах — няма. Штопраўда, пліты ходнікаў ляжаць у Чыжах ад 3-ох год. Пастарэлі, абраслі мохам. Чакаюць калі грамадская рада злітуецца і паложыць на месцы. Але старшыня ГРН гр. Мікола Брук не цікавіцца чыжоўскімі ходнікамі. Навошта яму?

У Чыжах вуліца брукаваная. Пачалі будову ў 1965 годзе і скончылі ў 1967 годзе. І што за карысць з гэтага бруку чыжоўцам? Калі прыйдзе вясна і пачне раставаць снег, вуліца стаецца возерам. Немагчыма тут прайсці без гумовых ботаў. Няма тут па баках равоў, якімі адплывала б вада. Цяпер вясной вада размыла чыжоўскую вуліцу. Трэба ізноў укладаць брук. І ўлажылі. Заплацілі рабочым. Цікава, колькі яшчэ разоў будуць рамантаваць чыжоўскую вуліцу?

**Кактус**

## ЧЫН У РЭДУТАХ

11 жніўня грамадскі чын адбыўся ў вёсцы Рэдуты (Бельскі павет). Моладзь вёскі некалькімі трактарамі вазіла жвір на дарогу Дубічы—Орля. Хаця жвір трэба было вазіць здалёк (адлегласць каля 10 км), аднак зажвіравана значную частку дарогі. Моладзь і дарослыя забавязаліся яшчэ некалькі разоў правесці гэтую карысную грамадскую работу.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## СХОД ТРОХ ПОП

11 жніўня ў вёсцы Агароднікі, Гайнаўскага павета, адбыўся сход членаў ПАРП з вёскі Агароднікі, Белкі і Іванкі. Абслужыў сход тав. Іван Бірыцкі, прадстаўнік Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы.

Тут былі абмеркаваны справы дагэтуляшніх дасягненняў паасобных ПОП у вышэй успомненым раёне і зацверджаны план работы да з'езда нашай партыі. У дыскусіі многа гаварылася аб пабудове дарогі Агароднікі — Белкі, аб тым, што ў Агародніках усе маюць электрычнае святло, а пяць гаспадароў, якія жывуць крышку далей ад электрычнай лініі, не маюць святла. Аляксандр Раеўскі — сакратар ПОП з Белак — звяртаў увагу на патрэбу хутчэйшага правядзення камасацыі зямлі ў вёсках Белкі і Сакі. Тут многа гаварылася і аб Гайнаўскім ПЗГС-е, што дрэнна забяспечвае сельскагаспадарчыя гурткі ў машыны..

На гэтым сходзе дэлегатам на павятовую канферэнцыю ПАРП выбралі тав. Паўла Карповіча.

**М. Л.**
Гайнаўскі павет

---

Плыўцы неахвотна падпарадкоўваюцца. Але яна ведае: гэта ненадоўга.

Стоячы ля дзвярэй, яна ў апошні раз глядзіць на іх. Яна ўсё адала б, каб іх выратаваць, усё на свеце!..

А Карцаў шукае Марту.

Па дарозе да спальні плыўцоў ён ужо быў у яе пакоі, на камбузе, абшукаў шматлікія адгаліненні тунеля. Яго ўсё больш ахоплівае трывога, прадчуванне наступаючай бяды: Марта была на пляцоўцы і ўсё ведае; у адчаі яна можа зрабіць такое, чаго ўжо не выправіш...

Не забывае ён і аб італьянцу, які застаўся адзін на адзін з Абстам. Праўда, Абст звязаны, у яго кляп у роце. Але ўсё роўна, як ён небяспечны!

Яны захавалі жыццё Абсту, вырваўшы ў яго абяцанне выратаваць плыўцоў. Ён даў слова. Але — «слова» Абста!

Галоўнае зараз — выдаць плыўцам прэпарат, адшукаць Марту, з яе дапамогай абясшкодзіць астатніх жыхароў падзямелля. Затым яны вернуцца на пляцоўку, дзе чакае Пела.

Сейф адкрыты; назіраючы за Абстам, італьянец рыхтуе падрыўныя зарады і рэспіратары. Апрача таго, ён павінен укруціць узрывацель у адну з тарпед — на ўсялякі выпадак.

Марта астанецца ў гроце, а Карцаў і Пела, узяўшы зарады, адправяцца на пошукі фашысцкіх падлодак.

Такія планы.

Хутчэй, хутчэй да плыўцоў!

Яшчэ паварот. Вось яны, дзверы.

Ледзь дыхаючы ад хвалявання, ён адсоўвае заслонку вочка. Нары пустыя. Людзі збіліся ў цэнтры пячоры. Памяшканне напоўнена гоманам.

Карцаў бяжыць да сховішча прэпаратаў. Гэта побач. Мабыць, ён яшчэ паспее прадухіліць бяду.

Вось і сховішча. Але што гэта? Дзверы адчынены. Стэлажы, якія яшчэ ўчора былі застаўлены кардоннымі скрынкамі з брыкетамі, цяпер пустыя.

Ён ідзе назад, тыцкаючыся локцямі аб сцены. Быццам сляпы. Масток праз шчыліну. На самым яе краі ляжаць два брыкеты.

Карцаў нахіляецца над шчылінай. З цемры ўдарыла холадам. Скінуўшы туды брыкет, ён чакае. Некалькі секунд паўзы, потым даносіцца далёкі плюск.

У бакавіне мосціка тарчыць цвік. На ім доўгая цёмная нітка. Карцаў падносіць яе да вачэй.

Сіняя шарсцінка.

Памяць падказвае: Марта, калі яна з'явілася ля лагуны, была ў сіняй куртцы.

Марта!.. Карцаў так ясна бачыць яе. Маленькая, яшчэ невыздаравеўшая, цягнецца яна па тунелю, згінаючыся пад цяжкасцю кардоннай скрынкі. Скінуўшы яго ў шчыліну, яна вяртаецца, каб падняць новую.

Скрынка за скрынкай знікае ў бяздонні. Урэшце засталася апошняя. Дацягнуўшы, Марта ўпускае яе на скалу, падае на калені, сантыметр за сантыметрам пхае цяжкую скрынку да шчыліны.

Берагі правалу спадзістыя. Тут лёгка страціць раўнавагу. Але Марта не думае аб небяспецы.

Хутчэй, кожную секунду яе могуць спасцігнуць!

Апошні рывок — і скрынка ляціць у правал.

А за ім, знясіленая, спаўзае туды і сама Марта, чапляючыся за камені і не знаходзячы ў іх апоры.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Дубіны**

,,Bariera'' (polski) ,,W martwej pętli'' (radz.), 7—8.

**Нараўка**

,,Męski piknik'' (jugosł.), ,,Sami swoi'' (polski), 4—8.

**Нарва**

,,Bumerang'' (polski), ,,Galia'' (franc.) 4—8.

**Чыжы**

,,10 małych Indian'' (angl.), ,,Na frontach wojny domowej'' (radz.), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Nikt nie chciał umierać'' (radz.), ,,Skąpani w ogniu'' (radz.), 4—8.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Pamiętnik pani Hanki'' (polski), ,,Potem nastąpi cisza'' (polski), 4—8.

**Райск**

,,Człowiek bez paszportu'' (radz.), ,Gorące lato'' (jugosł.), 4—8.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Deszcz padał na szczęście'' (czeski). ,,Smog'' (włoski), 3—6.

**Міхалова**

,,Ucieczka z Paryża'' (franc.), 3—4. ,,Otello z prowincji'' (węgierski), 5—6. ,,Panowie z kompleksami'' (włoski), 7—8.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Dzwonić Nortside 777'' (USA), 3—4. ,,Testament gangstera'' (franc.), 5—6. ,,Banda'' (polski), 7—8.

**Шудзялава**

,,Czterej pancerni i pies'' (polski), 4—8.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Lekarstwo na miłość'' (polski), ,,Pamiętnik pani doktór'' (franc.), 4—8.

**Новы Двор**

,,Kryptonim Nektar'' (polski), ,,Marysia i Napoleon'' (polski), 7—8.

**Ліпск**

,,Dzieci Don Kichota'' (radz.), ,,Jak się masz Vero'' (węgierski), 7—8.

---

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5727



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

